# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 26 (539) Год XI 26 ЧЭРВЕНЯ 1966 г. Цана 60 гр.


## У НУМАРЫ


УЛ. ПАЎЛЮЧУК: «КРЫПТАНІМ «В» (ЗБУЧ). Стар. 3.
В. БЕЛАКАЗОВІЧ: «ПОЛЬСКАЯ АПОВЕСЦЬ ПРА ТАРАСА ШАЎЧЭНКУ». Стар. 4.
РЫГОР ПАЎЛЮК: «ПРА ПІЛІПАВА КАХАННЕ». Стар. 5.
ХТО ВЫ, ДОКТАР ЗОРГЕ? Стар. 6.
АСАКА: «Я Ж НОГІ ПАМЫЎ». Стар. 8.


# курашаўскі гурток

Яго хваляць нават у ваяводстве.

— Воо, курашаўскі гурток! 145 тысяч злотых даходу выпрацаваў у мінулым годзе!

Дык хто ж найлепш пра яго справы будзе ведаць, як не старшыня, Рыгор Рамановіч. Тым больш, што ён і радны чыжоўскай грамады, і член Грамадскага ды Павятовага праўлення Аб'яднанага Стронніцтва людовага. Чалавек з галавой, як кажуць.

— «Кулка» наша, — гаворыць, — існуе ўжо 7 год. Ранняй вясной 1959 года прыехалі да нас з павета, склікалі сход і давай нагаварваць.

Дык я падумаў, што не шкодзіць запісацца. «Кулка» ў нас было супольнае з вёскай Волькай. Старшынёй выбралі Пракапюка з Волькі, а я ўвайшоў у рэвізійную камісію. Узялі мы трактар і абмалотачны агрэгат. Але адбыўся новы адміністрацыйны падзел, і Волька апынулася ў Ласінскай, а мы — у Чыжоўскай грамадах. І тады волькаўцы падзякавалі нам за супрацоўніцтва, забралі машыны і сказалі: бывайце здаровы. Што ж, прыйшлося арганізавацца самім. Сабралося нас 7 чалавек: Ян Паўлючук, Аляксей Семянюк, Васіль Кляпацкі, Сяргей Каліноўскі, Сцяпан Матвеюк, Антон Васілюк і я. Дагаварыліся ўзяць малацілку з бензінавым рухавіком, бо, як бачыце, у нас усё яшчэ няма святла. Але без грошай ніхто не прадае. Рашылі, што трох сярод нас возьме ў банку пазыку, а рэшта пасведчыць гэта. Паехалі ў Гайнаўку, і тут некаторыя перапалохаліся. Сталі ракамі прытварацца. Раззлавала гэта мяне. «Чорт з вамі! — гавару. — Я і сам магу ўзяць гэтых 12 тысяч. Толькі паджыруйце». Астаткова прылучыліся да мяне Семянюк і Кляпацкі. Нам хацелася мець уласны трактар. Хутары ў нас зрабілі яшчэ да вайны. Зямля цяжкая, двое коней да плуга трымаць прыходзілася. Трактара аднак у ПЗГС не аказалася. Так прайшло аж да жніва. Людзі былі ў полі, калі з павета паведамілі, што можна браць трактар. Мы не чакалі. Тут жа сцягнулі ўсіх членаў, запраглі каня і ў Гайнаўку! Найперш накіраваліся ў банк за пазыкай (20 тысяч зл. узялі), а потым па трактар. Трактарыст у нас быў свой — Янка Паўлючук. Ён адразу рассеўся на сваім сталёвым кані і адправіўся ў Курашава.

Але курашаўцы не праявілі вялікага зацікаўлення нашай дарагой пакупкай. Прыйшлося пайсці на спосаб. Жыве ў ў нас адзін гаспадар — Пятро Дубко. Пайшлі мы да яго і гаворым: «Слухай Пецька, мы табе заарэм дарма іржышча, згодны, што?» Ён згадзіўся. Наш Ванька пастараўся выдатна. Прыходзілі гаспадары, недаверліва ўзіраліся, быццам выхадкі нашай нейкай шукалі, а знайшлі добрую і спраўную работу. І гэта ўсіх пераканала.

Гутарку спыняе трактарыст. Прышоў даведацца, ці можна паехаць па жвір на школу. Аказваецца, што курашаўцы ўласным промыслам дабудоўваюць чатыры класы да сваёй старэнькай школы.

Аглядаюся па хаце. На руках у жонкі гадавое дзіця.

— Толькі клопат для мяне з тым «кулкам», — наракае жанчына. — Восем трактараў цяпер у іх, а колькі другіх машын: і сеўнікі, і снапавязалкі, касіл-

(Працяг на стар. 5)



Збучанская гаспадыня. (Да «Крыптанім В». Стар. 3)



Як лермантаўскі парус бялее ўдалі Чартаеўскі Тэхнікум.

# ЗЯЛЁНЫ ТЭХНІКУМ

Як лермантаўскі парус на раўнінных прасторах удалі бялее Тэхнікум Рольнае Чартаеў (глядзі здымак). Школа мае гаспадарства 300 гектараў. Вучоба тут цесна звязана з практыкай. Гэта свядомая і вядучая ідэя дырэкцыі школы. З Чартаева выйшла таму ўжо 170 абсальвентаў высокага класа.

Зараз у Тэхнікум вучыцца 300 асоб з трох паветаў: Сямяціцкага, Бельскага і Гайнаўскага.

200 асоб жыве ў суперсучасным інтэрнаце, збудаваным за 5 мільёнаў злотых. У вялікай святліцы школы хлопцы і дзяўчаты (апошніх 40%) збіраюцца на культурныя заняткі: спяваюць у хоры, іграюць на розных інструментах, майструюць пры апаратах.

Усюды, усюды, у будынках, пакоях, калідорах, кабінетах, класах, майстэрнях — усюды ў Чартаеве зелень кветак. Багацце гатункаў і форм! Свежыя, чыстыя. Самыя далікатныя дружаць з палявымі. Вось у кутку 2,5 метровая кармавая капуста. Цяжка паверыць, што яна з поля, звычайная гаспадарскай рукой дырэктара прынесеная, уваткнутая ў вазон, вырасла такая стройная. У Чартаеве ўсё расце на дзіва.

Багатая індывідуальнасць дырэктара **Фелікса Робака** адчуваецца тут на кожным кроку. У навуцы, і ў прадукцыі, у дасягненнях, і ў новых планах.

Увосень, 26 кастрычніка будзе яго — дырэктара — 10-годдзе працы ў Чартаеўскім Зялёным Тэхнікуме. Ён гэтую школу разбудаваў, узняў яе на вышыню.

Асеннім кастрычніцкім днём у коле сабраўшыхся сваіх сяброў можна паўспамінаць. Палі будуць ужо чыстыя, багаты ўраджай сабраны, нават ніводзін бурак не застанецца. Хутчэй, што будзе холадна, мо нават дождж. Але белыя сцены школы будуць тхнуць цішынёй і цяплом. Паплывуць размовы. Верных старых працаўнікоў: **Яна Кобуса, Юзэфа Скаўроньскага, Андрэя Гантарчука, Мікалая Алексеюка, Юзефа Марцінкоўскага.** Яны бачылі рост гаспадарства, якое цяпер дае:

**32 цэнтнеры аўса**
**30 „ ячменю**
**28 „ жыта**
**26 „ пшаніцы**
**24 „ рапаку**
**300 „ буракоў**
**600 „ бручвы,**

у якім сярэдні ўдой — 4 000 літраў у год, якое прадае ў год 180 вепрукоў і 30 тысяч куранят. Ёсць свая каналізацыя і вадаправоды.

Быў час, што сам **дырэктар Робак** вёў школьны хор і ўвогуле сам займаўся культурай у школе, якая пачала мець і мае ўплыў на акалічныя вёскі. Цяпер працуюць спецыяльныя людзі, якіх аплочвае дырэкцыя. **Аляксей Гарбачоў** вядзе вялікі, з добрымі галасамі хор і шматлікія інструментальныя і вакаль-

(Працяг на стар. 4)

## УВАГА, ВУЧНІ V і VIII КЛАСАЎ

Выбачайце, што ў час канікулаў хочам Вашы свабодныя думкі патрывожыць напамінам аб школе. Але канікулы праляцяць хутка і, нічога не зробіш, трэба будзе брацца за вучобу. Значыць, пачнуцца клопаты. Перш за ўсё стане пытанне падручнікаў (без іх цяжка Вам жыць). І тут маем для Вас не суцяшальныя весткі. Ужо вядома, што «чытанкі» па беларускай мове для V і VIII класаў не выйдуць у тэрміне. Колькі будзеце вучыцца без гэтых падручнікаў — не вядома. Каб прыйсці Вам з дапамогай, мы пастанавілі даць патрэбны Вам матэрыял на нашых старонках. І так, ад пачатку жніўня пачнем друкаваць «чытанкі» (тыя, якія будуць у падручніках). Матэрыял для V класа будзе друкавацца ў «Зорцы», для VIII — у «Ніве». Неадкладна (да 15 ліпеня) зрабіце падпіску на «Ніву» і збірайце «чытанкі». Будзем іх друкаваць, пакуль не выйдуць падручнікі. Жадаем Вам, а таксама ўсім школьнікам прыемных канікулаў.

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

**ДЭ ГОЛЬ І МАСКВА**

Прэзідэнт дэ Голь нядаўна прыймаў удзел у святкаванні **50 гадавіны бітвы пад Вердун.** Гэтая адна з крупнейшых бітваў І-шай сусветнай вайны каштавала французаў сотні тысяч забітых. Рускія і французы змагаліся тады супроць супольнаму ворагу: малады капітан дэ Голь пад Вердун трапіў у палон, да немцаў, а на іншым адрэзку заходняга фронту ў радах перакінутай дывізіі з Расіі вёў барацьбу Радыён Маліноўскі — сёння міністр абароны СССР.

Дэ Голь знаходзіцца ў Маскве ў дні **25 гадавіны гітлераўскай напасці** на Савецкі Саюз. Каштавала яна СССР жыццё мільёнаў людзей — а напад гэтых жа армій на Францыю прынёс частковую страту незалежнасці і чатыры гады акупацыі, у часе якой генерал дэ Голь стаяў на чале тых, хто не згадзіўся з паражэннем.

Памяць аб мінулым адчуваецца ў савецка-французскіх размовах. Але ні савецкія правадыры, ні генерал не з'яўляюцца людзьмі, якія б хацелі будаваць сучасную палітыку на гістарычных роздумах, сентыментах — на антыгерманскіх рэсентыментах. Аб французска-савецкім супрацоўніцтве вырашыла перад усім савецкая і французская **ацэнка сучаснай сітуацыі ў свеце.**

Перад усім разыходзіцца тут пра сітуацыю ў Еўропе. Дэ Голь прадстаўляе думку, што еўрапейскія краіны маюць супольныя справы нягледзячы на грамадскі лад. Генерал лічыць, што Злучаныя Штаты, заблытаўшыся ў заморскія канфлікты, могуць лёгка ўцягнуць Еўропу ў чужыя ёй справы. Іменна таму рашыў ён вывесці Францыю з ваеннай арганізацыі НАТО, якую апанавалі ЗША. Таму ўзняў ініцыятыву пашырэння кантактаў і дыялагаў з усходняй Еўропай, мэтай якіх з'яўляюцца пошукі дарог да супрацоўніцтва.

Савецкі Саюз дэ Голь наведаў упершыню ў снежні 1944 г. Быў ён тады шэфам урада толькі што вызваленай Францыі. Трэба адзначыць, што адным з рэзультатаў тагачаснага візіту было ўстанаўленне суадносін між ПКВН а французскім урадам.

**КЕНЕДЗІ II**

Роберт Кенедзі, сенатар, брат забітага прэзідэнта і былы пракурор у яго ўрадзе — ставіць на ліберальныя асяроддзі. Тут будзе ён шукаць апоры, каб у будучыні атрымаць намінацыю на **кандыдата на прэзідэнта ЗША.** Гэтаму служыць, між іншым, нядаўны візіт у Паўднёва-Афрыканскай рэспубліцы. Пабываў ён тут на запрашэнне апазіцыйнай антырасісцкай студэнцкай арганізацыі.

**ЗАКОН...**

...у справе выбараў у Паўднёвым В'етнаме ўжо рыхтуецца, заявіў марыянеткавы прэм'ер Као Кі. Адзначыў ён, што выбары не будуць праводзіцца на абшарах занятых партызанамі (гэта 2/3 тэрыторыі). Кандыдатам у члены будучага «парламента» нельга ў перадвыбарчай кампаніі агітаваць супроць бруднай вайне ў В'етнаме. У спіскі кандыдатаў у члены «парламента» не могуць уводзіць як камуністы, так і нейтралісты. **(А. К.)**

## БССР

**ДЗЕЙНАСЦЬ**

Нядаўна бюро Цэнтральнага Камітэта камсамола Беларусі абмяркоўвала камсамольскую дзейнасць сярод маладой творчай інтэлігенцыі. Сцверджана вялікае занядбанне гэтакай дзейнасці. Апрацавана план радыкальнага паляпшэння дзейнасці. М. ін. пачынаючы ад 1967 года, вясною будуць праводзіцца фестывалі творчасці маладых.

**У РЫМ**

У II-ой Сусветнай канферэнцыі па зямельных рэформах прыняла ўдзел дэлегацыя Беларускай ССР у складзе: П. Барысаў, Ф. Марцінкевіч і І. Руднік.

Канферэнцыя адбылася ў Рыме.

**УСЕСАЮЗНАЯ**

У Мінску адбылася Усесаюзная канферэнцыя тэрапеўтаў — гастраэнтэролагаў. Былі абмеркаваны пытанні барацьбы з язвавай хваробай страўніка і дванаццаціперснай кішкі.

На канферэнцыі было створана Усесаюзнае таварыства тэрапеўтаў — гастраэнтэролагаў.

**МАШЫНАЛІЧЫЛЬНАЯ**

У Бабруйску пачала працаваць машыналічыльная станцыя, якая здольная замяніць сотні рахунковых работнікаў.

**ТАШКЕНТУ**

У беларускіх газетах усё яшчэ друкуюцца карэспандэнцыі пра землетрасенне ў Ташкенце. Беларусь абавязалася пабудаваць у Ташкенце 25 тысяч квадратовых метраў кватэр.

**БУКЛЕТЫ**

Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны пачаў выпуск серыі буклетаў — «Героі зямлі беларускай». У першым выпуску расказана пра подзвігі лётчыкаў Гастэлы і Гараўца, генерала Даватара, яфрэйтара Купрыянава, медыцынскай сястры Зіны Марчанка, а таксама пра слаўных беларускіх партызанскіх камандзіраў.

**ОРДЭН**

Льнокамбінату ў Оршы ўручан ордэн Леніна за добрае выкананне сямігадовага плана, стварэнне і выпуск тканін новых структур з ільну і штучнага валакна.

**ВІНШУЕМ!**

Прэзідыум Народнага сходу Народнай Рэспублікі Балгарыі за перакладчыцкую дзейнасць узнагародзіў беларускага паэта Ніла Гілевіча ордэнам Кірыла і Мефодзія I ступені.

**БОЛЬШ**

Штораз большай папулярнасці ва ўсім Савецкім Саюзе набірае возера Нарач — на былой Віленшчыне.

**ВЕКАВЫ ТЭХНІКУМ**

Споўнілася 90 год з дня заснавання Мар'інагорскага . сельскагаспадарчага тэхнікума. (Мар'іна Горка за Мінскам). (СЯ)

## ПОЛЬШЧА

**ДНІ МОРА**

Дні Мора — свята матросаў, рыбакоў, стачнёўцаў, докераў. У суботу, 18 чэрвеня пад лозунгам «Тысяча год над Одрай і Балтыкай» пачаліся ў Шчэціне ўрачыстасці. У іх прымаў удзел член палітбюро ЦК ПАРП — Стэфан Енрдыхоўскі і член дзяржаўнай рады Казімір Банах.

Старынны славянскі горад на берагу Одры — Цэдыня была месцам, дзе ў 972 годзе воіны Мешка І-га і яго брата Чціборa разграмілі нямецкія войскі.

Тут таксама ў раёне Сякерак салдаты Польскага войска ў красавіку 1945 года сфарсавалі Одру і гэтым самым адкрылі дарогу да сталіцы фашызму — Берліна.

**ЛІСТ ПРЭМ'ЕРА**

Прэм'ер-міністр Юзэф Цыранкевіч выслаў ліст да старшынь ваяводскіх і павятовых рад нарадовых у справе пашырэння правоў гарадскіх рад нарадовых гарадоў, якія не становяць паветаў. У лісце ёсць дакладны пералік спраў, якія павінны быць перасказаны гарадскім радам нарадовым.

**IV СПУЛДЗЕЛЬЧЫ З'ЕЗД**

16 і 17 чэрвеня ў Варшаве праходзіў IV краёвы з'езд дэлегатаў сельскагаспадарчых спулдзельняў прадукцыйных. Ён абмеркаваў дагэтуляшнюю іх дзейнасць, прыняў пастановы і выбраў новыя ўлады Цэнтральнай рады саюза Сельскагаспадарчых спулдзельняў прадукцыйных.

**ЮБІЛЕЙ ДЗЕСЯЦІГОДДЗЯ**

Тэатр мазавецкай зямлі 17 чэрвеня адзначаў 10-годдзе свайго існавання. Ва ўрачыстасцях прымаў удзел міністр культуры і мастацтва Люцыян Матыка.

**ТРУСКАЛКІ**

Да 18 чэрвеня ў Польшчы закуплена 45 тысяч тон трускалак. На рынак трапіла блізка 25,5 тысяч тон, да апрацоўчай прамысловасці — 18 тысяч тон і на экспарт — амаль 1,5 тысячы тон.

Да гэтага часу дзённы продаж трускалак у Варшаве выносіў 180 тон, у Труймесце (Гданьск, Гдыня, Сопат) — 130 тон. на Шлёнску — 400 тон, у Лодзі — 100-тон, у Познані — 120 тон. Цэны на трускалкі ў цэнтральных і паўднёвых раёнах былі ад 6 да 10 зл. за кілаграм, а ў ваяводствах паўночных — ад 9 да 11 зл.

**150 ГАДАВІНА**

У сувязі са 150-ай гадавінай заснавання Станіславам Сташыцам Грубешаўскага сельскагаспадарчага таварыства 18 чэрвеня адбылася ў Грубешаве ўрачыстая навуковая сесія і мітынг грамадскасці Грубешаўшчыны. Ва ўрачыстасці, між іншымі, узялі ўдзел: старшыня НК ЗСЛь Чэслаў Выцэх і сакратар ЦК ПАРП Юзэф Тэйхма.

**НА АДПАЧЫНАК**

750 тысяч дзяцей і моладзі перавязе чыгунка на летнія «калёніі». Будуць прыведзены ў рух 728 спецыяльныя цягнікі. У межах ваяводстваў моладзь паедзе на адпачынак ПКС-амі. Усім дзецям будуць забяспечаны сядзячыя месцы. (мх)

## ВАЯВОДСТВА

У Беластоку адбыўся вялікі злёт моладзі — 10 тысяч асоб. Найперш быў каляровы, вясёлы паход вуліцамі новага цэнтра горада, потым на стадыёне ў Звярынцы моладзь выслухала выступлення І-га сакратара Ваяводскага камітэта партыі А. Лашэвіча і злажыла прысягу.

Моладзь Беласточчыны выйшла на злёт з выкананымі абавязацельствамі на суму 11 мільёнаў злотых.

У злёце ўдзельнічала дэлегацыя Гродзенскага Камсамола на чале з І-шым сакратаром Акруговага камітэта Эдвардам Наготка.

Мастацкую частку злёту распачаў 300-асабовы хор маладзёжных хораў ваяводства.

*

У верасні адбудзецца агульнапольскі мастацкі пленэр у Белавежы. Будзе ён другім. Першы адбыўся ў мінулым годзе.

*

Адбылася нарада сакратароў прэзідыумаў ВРН з васьмі ваяводстваў: Беластоцкага, Быдгоскага, Кялецкага, Люблінскага, Кашалінскага, Апольскага, Жэшаўскага, Шчэцінскага. Удзельнічалі прадстаўнікі канцылярыі Рады Дзяржавы.

*

Камісія прамысловасці ВРН разгледзіла на спецыяльным пасяджэнні справы рамяства і паслуг, іх далейшае шырокае развіццё ў ваяводстве.

*

«Рух» у «Днях асветы» прадаў: газет на 20 700 зл., кніжак на 118 000 зл., паштовак на 3 600 зл., рэпрадукцый карцін на 6 490 зл.

*

Беластоцкія гарцэры зложаць рэвізіт літоўскім піянерам, якія ў мінулым годзе наведалі Беласточчыну.

*

Беластоцкая выстаўка быдла ў Шэпетове паказала тры расы: чырвоную польскую, чырвоную дацкую і джэрсей. Заданнем выстаўкі была інтэнсіфікацыя жывёлагадоўлі ў ваяводстве.

*

Балтыйская велагонка «Дружбы» — малодшы брат Велагонкі Міру, закончылася. Вялікага поспеху дабіўся прадстаўнік беластоцкай каманды Брадацкі, які заняў II месца, каманда заняла III месца.

*

Кніжак СОП маем 167 тысяч штук з капіталаўкладаннем 390 мільёнаў злотых Абарот асягнуў 20 мільёнаў злотых СОП гуртуе 140 тысяч асоб, у гэтым 26 тысяч жанчын з укладам 46 мільёнаў злотых. Мала моладзі.

*

Беластоцкі тэатр прыняў удзел у Торуньскім фестывалі тэатраў Паўночнай Польшчы. Выступіў з «Дзядамі» Міцкевіча.

*

У Беластоку адбылася краёвая канферэнцыя па справах гаспадаркі вадой. Яе мэта — зліквідаваць марнатраўства вады. (вл)

## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

**NIEDZIELA 26.VI.**

10.20 Program dnia; 10.25 „Prokurator Alicja Horn" — film fab. pol. (archiwalny); 11.35 „Wielka Brytania" — film ang.; 12.00 Wiadomości dziennika; 12.10 Kino Przygoda: „Ach te dzieci" — film. fab. radz.; 13.20 „Pojezierze Drawskie" — rep. film.; 13.35 PKF; 13.45 Dla dzieci: „Pan Półka i spółka"; 14.05 „Wesele góralskie" — program regionalny z Zakopanego; 14.40 „Słonie w Ojcowie" — („Piórkiem i węglem"); 15.00 „Rysunkowe przygody" — film; 15.25 „Podwodny rejs" — rep. („Ludzie i zdarzenia"); 15.45 „1000 lat Polski na morzu" — teleturniej; 16.45 „Stare życiorysy" — gawęda historyczna Al. Małachowskiego; 17.00 „Studio 63" Zygmunt Krasiński „Listy do Delfiny". Wykonawcy: A. Śląska, G. Holoubek, A. Hanuszkiewicz; 18.00 Program estradowy (Moskwa) — występ pularnych artystów; 18.45 „Spotkanie z poetą" — Zbigniew Bieńkowski; 19.05 „Słownik wyrazów obcych"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.15 Festiwal Piosenki w Opolu (Opole); Po transmisji ok. 22.15 Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 27.VI.**

16.50 Program dnia; 16.55 Wiadomości dziennika TV; 17.00 Dla dzieci: film „Poly i tajemnica siedmiu gwiazd"; 17.15 Dla młodych widzów: „Z busolą na szlak"; 17.35 Dla młodych widzów („7 milionów"); 17.55 „Nos dla tabakiery"; 18.20 Kino Krótkich Filmów"; 18.50 TV Magazyn Postępu Technicznego; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik telewizyjny; 20.00 Teatr TV: „Żeglarz" J. Szaniawskiego. W roli głównej J. Woszczerowicz oraz: E. Krakowska, H. Mikołajska, B. Sołtysik, E. Wiśniewska, A. Antkowiak, H. Bąk, R. Kosiorkiewicz, J. Kostecki, W. Kowalski, K. Morawski, J. Paluszkiewicz, B. Pawlik, Z. Tobiasz; ok. 21.30 „Na półkach księgarskich"; 21.40 Dziennik telewizyjny; 21.50 23-cia lekcja języka angielskiego.

**WTOREK, 28.VI.**

10.00 „Pierwszy krzyk" — film fab. CSRS; 11.15 Przerwa; 16.15 Politechnika TV — Kurs Przygotowawczy: Fizyka — Zadania z różnych działów fizyki cz. II. Wykładowca prof. J. Hurwic; 16.45 Program dnia; 16.55 Wiadomości dziennika TV; 17.00 Dla dzieci: „Kino Ptyś"; 17.20 Dla młodych widzów: TV Klub Trzynastolatków; 17.40 „Białe wybrzeże" — reportaż poświęcony turystycznemu zagospodarowaniu wybrzeża; 18.25 „Próby" — miesięcznik konsumenta; 18.55 „Co się może zdarzyć w nocy" — program rozrywkowy. Autor — A. Marianowicz. Wykonawcy: I. Cembrzyńska i A. Łapicki; 19.20 „Dobranoc", 19.30 Dziennik telewizyjny; 20.00 „Pierwszy krzyk" — film fab. CSRS; 21.20 Reportaż; 21.50 Dziennik TV; 22.00 Politechnika TV — Kurs Przygotowawczy: Fizyka — Zadania z różnych działów fizyki cz. II. Wykładowca prof. J. Hurwic; 22.30 23 lekcja języka francuskiego.

**SRODA, 29.VI.**

10.00 „Liza" — film („Dr Kildare"); 10.50 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.55 Wiadomości dziennika TV; 17.00 „Kiedy trzeba podjąć decyzję" — Tygodnik Wiejski; 17.25 Program filmowy; 17.50 Wszechnica TV: „Stanisław Staszic" — program historyczny; 18.20 „Temat z wariacjami"; 18.50 „Lebensborn — źródło zbrodni"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik telewizyjny; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Liza" — film („Dr Kildare"); 21.05 „Światowid" — magazyn wydarzeń międzynarodowych; 21.30 Dziennik telewizyjny; 21.40 23 lekcja języka rosyjskiego.

**CZWARTEK, 30.VI.**

16.25 23 lekcja języka francuskiego — powtórzenie; 16.45 Program dnia; 16.55 Wiadomości dziennika TV; 17.00 Program dla dzieci; 18.45 „Czwarta zmiana"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik telewizyjny; 20.30 Teatr Sensacji: „Pocztówka z Buenos Aires", odc. I „MGF-07" — widowisko sensacyjno-szpiegowskie A. Wydrzyńskiego; ok. 21.15 „Dobry wieczór, jak minął dzień"?; 21.40 Dziennik telewizyjny.

**PIĄTEK, 1.VII.**

17.45 Program dnia; 17.55 Wiadomości dziennika TV; 18.00 „Azymut" — młodzieżowy magazyn wojskowy; 18.25 „Wyspa szablodziobów" — film („Świat, który nie może zginąć"); 18.50 Wszechnica TV: „Jak patrzeć na dzieło sztuki?". Przed kamerą prof. dr J. Białostocki; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik telewizyjny; 20.00 „Z kamerą po kraju"; 20.15 Festiwal Teatralny: „Żałosna i prawdziwa tragedia pana Ardena z Feversham przez nieznanego autora opowiedziana". Transmisja z Teatru Starego im. Heleny Modrzejewskiej w Krakowie; ok. 22.15 Dziennik telewizyjny.

**SOBOTA, 2.VII.**

10.00 Film fab.; 11.30 Przerwa; 15.00 Sprawozdanie z międzypaństwowych zawodów lekkoatletycznych o Memoriał Braci Znamieńskich (Odessa); 16.30 Przerwa; 16.55 Program dnia; 17.00 Wiadomości dziennika TV; 17.05 Program Tygodnia; 17.20 „Śladem podróży kapitana Cooca" — film; 18.10 Dla młodych widzów: „Liga Entuzjastów Wakacji"; 18.40 „Rysunkowe przygody" — film; 19.05 „Wieczorne rozmowy"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 „Monitor"; 20.00 „Pegaz" — magazyn kulturalny pod red. G. Lasoty; 20.45 „Rozrywkowy Konkurs Miast" pt. „Wczasy i wywczasy" (Katowice, Wrocław, Gdańsk, Szczecin); 22.35 Dziennik telewizyjny; 22.50 Wiadomości sportowe; 23.00 „Pierwsze randes vous" — nowela filmowa wg Guy de Maupassante'a.

**Наша акцыя** **КРЫПТАНІМ „В"**

**ЗБУЧ — ВЁСКА МАЛАДАЯ**

**Збуч — адна з маладзейшых вёсак Беласточчыны. Паўстала яна праўдападобна вакол панскага фальварку. Вясковая традыцыя пераказвае, што паны — уладальнікі Збуча мелі прозвішча Збучанскія — адсюль назва вёскі.**

**Пасярэдзіне Збуча дагэтуль стаіць яшчэ старая ліпа, якую сяляне называюць «дворскай».**

**З іншых гістарычных помнікаў існуе ля Збуча даволі вялікай вышыні штучны насып — праўдападобна астатак нашэсця шведаў у XVII стагоддзі.**

# ЗБУЧ

### МЕХАНІЗАЦЫЯ

Збуч — вёска змеханізаваная. Зараз працуе ў Збучы 4 трактары, 3 жнярнякі, 4 сеўнікі і мноства іншых машын. Гэта машыны сельскагаспадарчага гуртка. Апрача таго кожны гаспадар мае нейкія ўласныя машыны. Аб ступені змеханізавання сельскагаспадарчых работ можа сведчыць хаця б тое, што 9 збучанскіх гаспадароў не маюць увогуле коней. Усе работы выконваюць яны выключна пры дапамозе трактараў. Сяляне са Збуча даўно ўжо дайшлі да вываду, што трактар больш выгадны і значна таннейшы ад каня. Прэзас мясцовага сельскагаспадарчага гуртка Мікалай Якімюк сапраўды мае клопат з вызначэннем першынства карыстання трактарам. Сяляне проста сварацца. Трактар аднак пры ўсіх сваіх «плюсах» мае адзін недахоп: калі сапсуецца, ніхто з сялян не ўмее яго «палечыць». Не многа больш ад сялян разумеюць трактаравыя «хваробы» мясцовыя трактарысты. Трэба трактар адсылаць у гайнаўскі ПОМ на рамонт. Уся бяда ў тым, што рамонты гэтыя вельмі часта не «лечаць» трактараў, або «лечаць» іх вельмі марна.

Так, напрыклад, адзін са збучанскіх трактараў у красавіку меў у гайнаўскім ПОМ-е капітальны рамонт, а зараз ім ужо нельга ездзіць.

Ці не за хутка?



**Жыхары Звуча аглядаюць тэлевізійную праграму.**

### ЭЛЕКТРЫФІКАЦЫЯ

Электрыфікацыя ў Збучы праводзілася яшчэ ў 1947 годзе. Як вядома, сяляне ў той час мелі ў час электрыфікацыі розныя льготы і плацілі параўнальна нямнога. Электрыфікацыя ў Збучы праходзіла аднак даволі цяжка. Сяляне баяліся святла і многія з іх не згадзіліся на электрыфікацыю сваіх гаспадарак. Гаспадары гэтыя хутка апамяталіся і пачалі электрыфікаваць гаспадаркі на ўласны кошт, плацячы за гэта вялікія грошы.

Зараз сяляне так прызвычаіліся да святла, што не ўяўляюць жыцця без яго. Дзякуючы намаганням сялян неўзабаве праведзена будзе ў Збучы асвятленне вуліцы, і сялянам будзе ясна не толькі ў хатах.

### АРГАНІЗАЦЫІ

У Збучы ёсць амаль усе арганізацыі, якія могуць існаваць у вёсцы. Ёсць падставовая партыйная арганізацыя, ёсць ЗМВ, ЛьЗС, ЛьПЖ, БГКТ, сельскагаспадарчы гурток, КГВ і пажарная каманда. Найбольш вядомы ў Збучы сельскагаспадарчы гурток. Заснаваўся ён тут у 1959 годзе і налічваў усяго 5 членаў. Зараз сельскагаспадарчы гурток налічвае 34 гаспадары і адыгрывае ў Збучы вялікую ролю.

Малую тым часам ролю адыгрываюць маладзёжныя арганізацыі (ЗМВ, ЛьЗС). Аб іх дзейнасці ў Збучы ніхто ні з маладых, ні са старэйшых не мог нічога толкам сказаць. На пахвалу заслугоўваюць збучанскія жанчыны. Мясцовае Кола гаспадынь (КГВ) сарганізавала ўжо дзве экскурсіі, арганізуе конкурс гадоўлі свіней, плануе прыняць удзел у пабудове святліцы.

### СПАРТЫЎНАЯ ПЛЯЦОЎКА ЗА 100 ЗЛОТЫХ

Калі ў Збучы праводзілася камасацыя зямель, мярнічыя выдзелілі пасярэдзіне вёскі кавалак зямлі на спартыўную пляцоўку для мясцовай моладзі. Хутка аднак збучанскія сяляне сарыентаваліся, што гэтая зямля можа быць выкарыстана інакш. Перш за ўсё пабудавана на спартыўнай пляцоўцы краму. Затым агульны сход сялян Збуча пастанавіў рэшту незабудаванай пляцоўкі аддаць у карыстанне аднаму з гаспадароў за аплатаю 100 злотых у год. Гаспадар пераўтварыў пляцоўку ў пашу. Такім чынам моладзь Збуча гуляе ў футбол уздоўж вуліцы.

Дзіўна толькі, што ні ЗМВ ні ЛьЗС, якія існуюць у Збучы, не паспрабавалі на агульным сходзе пераканаць сялян у неабходнасці спартыўнай пляцоўкі ў іх вёсцы.



**Збучанская вуліца ўлетку поўная свежай зелені.**



**Тыя, хто не зэлектрыфікаваў сваіх хат у пару, робяць гэта зараз....**

### ВЕЧАРАМ

Летам вечары вельмі кароткія на вёсцы. Іх амаль няма. Палявыя работы неаднойчы зацягваюцца да пазна, да самага змяркання. Нягледзячы на змучанасць, кожны дзень на змярканні старыя і маладыя жыхары Збуча спяшаюць у мясцовую школу. Тэлевізар! Тэлевізар у Збучы быў куплены супольнымі намаганнямі ўсіх сялян. Зладжыліся яны па 50 злотых ад гаспадара, рэшту дала павятовая рада.

Збучанскі тэлевізар мае дзве антэны: адна адбірае праграму з Варшавы, а другая — з Мінска. У кожную пару года школьная зала перапоўнена тэлевізійнымі гледачамі, якія сочаць за праграмай шклянага экрана да позных гадзін ночы.

### ВУЧОБА ПАТРЭБНА ГАСПАДАРАМ

Збучанскія гаспадары даўно ўжо «выраслі» з таго этапу гаспадаравання, калі можна было абысціся ведамі пераказванымі традыцыяй з дзеда-прадзеда. Гаспадаркі ў Збучы высокатаварныя, спецыялізаваныя пераважна на малочную прадукцыю, і веды пры іх патрэбныя як найбольш сучасныя, навуковыя. Таму нават старэйшыя ўзростам гаспадары не саромяцца сядаць у школьных лаўках. Асаблівым поспехам карыстаўся тут 2-гадовы сельскагаспадарчы курс, які вёў мясцовы сельгасгурток.

### МЁД

Збуч, асабліва вясною, пахне канюшынаю і мёдам. У Збучы каля 15 гаспадароў мае свае пасекі пчол велічынёю ў сярэднім па 15 пянькоў.

### ЖАНІЦЬБЫ

У гэтым годзе вясною, пасля Вялікадня, пачаліся ў Збучы, як ніколі, інтэнсіўныя жаніцьбы. У гэты менавіта час ажанілася тут 4 хлопцаў і выйшла замуж 3 дзяўчыны.

### КАРОВЫ

Галоўны фінансавы даход сялян Збуча — гэта каровы. Гадуецца тут прыблізна каля 300 штук кароў і аддаецца штодзённа каля 40 бітонаў малака (вёска налічвае 88 гаспадароў). Даход гаспадароў з малака — у сярэднім каля 3 тысяч злотых у месяц. Рэкорд у малочнай прадукцыі б'е Саўчук Якуб, які ў мінулым годзе гадаваў аж 12 малочных кароў. Сын Якуба вучыцца зараз на самахадовым курсе ў Гайнаўцы, а бацька збіраецца неўзабаве купіць яму аўтамашыну.

**Ул. Паўлючук**
Фота аўтара



**Асноўны даход гаспадароў Збуча — гэта каровы.**

ПАСЛЯКОНКУРСНЫЯ ДУМКІ

# НЕАПРАЎДАНЫЯ СПАДЗЯВАННІ

Рэпертуарны конкурс, які Галоўнае праўленне БГКТ аб'явіла на пачатку красавіка г. г., ужо вырашаны. 7-га чэрвеня камісія ў асобах: Ада Чэчуга, Люба Раманюк і Уладзімір Юзвюк пастанавіла: **першай узнагароды зусім не прызнаваць, а другой узнагародай адзначыць п'есу Уладзіміра Паўлючука п. з. «Конская кніжка».**

На трэцюю ўзнагароду твораў не знайшлося, а пацяшальнай прэміяй адзначылі: п'есу Міколы Лобача п.з. «Як гэта ў вас называецца» і сцэнічны эцюд Сакрата Яновіча п. з. «Сястронка», а таксама «Канферансье» гэтага ж аўтара.

Шчыра кажучы, конкурсная камісія занадта не напрацавалася. Проста не было ў чым выбіраць. На аўтараў чакала разам чатыры даволі заманлівыя ўзнагароды. Але ахвотных аказалася мала — усяго ледзь трох аўтараў. І ўсе яны ўзнагароджаны.

Аб узроўні прысланых на конкурс твораў гаворыць факт, што камісія не знайшла твора на першую і трэцюю ўзнагароды. Сапраўды, вясковыя аматарскія драматычныя гурткі не вельмі знойдуць чым узбагаціцца пасля гэтага конкурсу. Хіба толькі п'есай Ул. Паўлючука.

Віна не толькі аўтараў. Арганізатары конкурсу вызначылі ледзь адзін месяц часу для прысылання твораў. Маглі тады прыняць удзел толькі гэтыя аўтары, якія мелі ўжо або напісаныя, або дакладна прадуманыя творы. Паспешнасць і недапрацаванасць вылазіла з кожнага твора, як шыла з мяшка.

Цешаць аднак тэмы конкурсных твораў. Яны, як правіла, адносяцца да цяперашняга дня беларускай вёскі і яе спраў. Многа месца і ўвагі аўтары прысвяцілі навучанню і адносін да роднай беларускай мовы і сужыццю беларусаў з палякамі. Выступае гэта і ў Яновіча, і ў Лобача. Няма ў творах мляслівага «кахання» і штучнай «тугі» за роднымі беларускімі старонкамі, няма ўжо ваеннай тэмы. А гэтыя справы часта пераклікаліся ў папярэдніх літаратурных конкурсах БГКТ.

П'еса Ул. Паўлючука «Конская кніжка» будзе надрукавана ў «Беларускім календары» на 1967 год. Варта ёю пацікавіцца арганізатарам аматарскага мастацкага руху. Яна закранае блізкія сялянскаму сэрцу справы вясковага жыцця, жыва і з гумарам паказвае новыя элементы сялянскага быту, якія паявіліся ў нас у выніку шырокіх кантактаў жыхараў вёскі, асабліва моладзі — з горадам, з гарадскім стылем жыцця, з тэхнікай. Асмешвае яна кансерватызм і адсталасць, хваліць навуку і розум.

Не, нельга сказаць, што конкурс не ўдаўся. Ён не апраўдаў аптымістычных спадзяванняў арганізатараў, але апраўдаў самую ідэю. Варта і ў далейшым арганізаваць рэпертуарныя конкурсы. **Беластоцкая вёска ўсё яшчэ чакае на свой арыгінальны беларускі рэпертуар.** Засталося вось з апошняга конкурсу тысяча злотых. Далажыць яшчэ прыкладна паўтары і аб'явіць новы конкурс. Але ўжо з тэрмінам шмат даўжэйшым, каб усе, хто захацеў бы штосьці напісаць, мелі дастаткова часу на дакладную апрацоўку сцэнічнага твора. Гэта вельмі цяжкі літаратурны жанр. А патрабаванні павінны быць даволі высокія. Шмат вышэйшыя, як зараз. Людзі цяпер маюць шырокі доступ да тэлевізійных пастановак і навучыліся ўжо адрозніваць хаўтуру ад твораў высокага літаратурнага ўзроўню. І гэта абавязвае.

**В. Рудчык**

ЛІСТЫ З МАЁЙ ВЁСКІ

# ПРА ПІЛІПАВА КАХАННЕ

У маёй вёсцы амаль кожны мужчына мае сабе жонку, а дзядзька Піліп мае іх дзве.

Піліп — чалавек не першай маладосці. Яму ўжо звыш 70 гадоў. Калі памерла яго першая жонка, Піліп прыйшоў к вываду, што без жанчыны дрэнна жыць на свеце, кінуў сваю хату і пайшоў да кастусёвай Надзі, удавы гадоў каля шасцідзесяці. Узяў з сабою сваю пярыну, а каб Надзя яшчэ больш яго кахала, купіў ёй «залаты» гадзіннік за 1900 злотых.

Жыў Піліп з Надзяю ўсё мінулае лета з ранняй вясны да позняй восені. Піліп, хаця не малады, мужчына яшчэ здаровы і працавіты. Зааpaў Надзіна поле, потым засеяў, потым сабраў усё. Навазіў Надзі дроў на ўсю зіму і абабіў хату саломаю. Калі надышла зіма, Надзя пачала выганяць Піліпа з хаты.

— Ён ужо стары, брыдкі і халодны, — тлумачыла суседкам.

Піліп пакінуў Надзю і пайшоў да Цыбульчынай Парасکі — таксама ўдавы. Параска не выганяла Піліпа, хаця ёй не купляў гадзіннікаў. Учціва варыла яму два разы ў дзень бульбу і суп з крупою, парыла гарачы чай, а нават купляла ў краме цукеркі. «Каб салодшае было жыццё», — гаварыла. За зіму піў Піліп з Параскаю два разы гарэлку, быў раз на фэсце ў суседняй вёсцы і раз на кірмашы ў Беластоку.

Пад вясну Піліп штораз часцей пачаў заходзіць да мяне дахаты. Быў прытым штораз больш сумны і задуманы. Сядаў зазвычай на парозе і, нічога не гаворачы, углядаўся гадзінамі, як жонка верціцца каля гаршкоў.

— Што вы, дзядзька Піліп, закаханыя, ці што? — пытаўся я.

— Эт, — адказваў Піліп, махаючы нядбайна рукою.

Учора, калі Піліп прышоў у хату, жонкі мае не было дома. Піліп усеўся як зазвычай на парозе і запытаў:

— А жонка дзе?

— Няма, пайшла недзе на вёску, — адказаў я.

— Ну дык і добра, што няма, — сказаў Піліп. Потым уздыхнуў і пачаў з заклапатаннем:

— Я, бачыш, даўно хацеў пагутарыць з табою ў адзіночку. Можа б ты параіў, што мне пачаць цяпер.

— Што Гарбузоў зноў з вамі судзіцца? — запытаў я, маючы на ўвазе Віцю Гарбузовага, які калісьці праз некалькі гадоў судзіўся з Піліпам за кавалак поля.

— Тут не Гарбузоў вінаваты, — адказаў Піліп, і, пераглынуўшы сліну, пачаў яшчэ больш збянтэжана:

— Надзя гэтая ўсяму вінавата. Хіба ненейкіх любчыкаў задала. Ну, не магу, як падумаю пра яе — нешта аж у грудзях коле.

— Дык вы дзядзька сапраўды закаханыя! — здзівіўся я.

Піліп прытварыўся, што не заўважыў майго здзіўлення і працягваў далей:

— Цягне мяне да яе, як магнітам. Ну, не магу, як падумаю, аж у грудзях коле. Па начах не сплю. А тут яшчэ Гандзя штораз прыбягае і наказвае, каб вяртаўся ўжо да Надзі, бо больш выганяць не будзе.

— Ну дык трэба вяртацца, — кажу на гэта.

— Так, але мне і Парасکі шкада. Пражыў у яе ўсю зіму і была мне такая добрая. Калі ўспомніў каторагасьці дня, што можа адыду ад яе, цэлы дзень плакала, а потым кажа: «Хаця б гной з хлявоў мне павывозіў, поле засеяў. Што ж я пачну цяпер сама?» Сапраўды не ведаю, што мне пачаць.

Піліп схіліўся, схаваў галаву ў касцістых сваіх далонях і, утапырыўшы зрок у падлогу, затапіўся ў сваіх сэрцавых клопатах.

**Рыгор Паўлюк**

ПАШТОЎКА З ГАЙНАЎКІ



**Новае будаўніцтва на вуліцы 1-га мая.**

Фота Мікола Пракапюк Гайнаўка

(Працяг са стар. 1)

# КУРАШАЎСКІ ГУРТОК

кі, апырсквальнікі і чорт ведае што яшчэ! А пра ўсё трэба думаць. Ідуць ды ідуць да яго, — ківае ў бок мужа, — дзверы не зачыняюцца. Каб яшчэ прынамсі што меў за гэта. Мог бы хаця трактарыстам навучыцца. Яны ж у сезон да дзвюх тысяч зарабляюць. А ён!

Старшыня смяецца.

— Яна так заўсёды. А работы сапраўды па горла. Цяпер прынамсі ёсць платны дыспетчар, значыць кіраўнік ад машын. — Антон Васілюк. І праўленне добрае. Ёсць на каго спадзявацца. Вось як мой намеснік, Васіль Нікалаюк, як сакратар Сяргей Каліноўскі, як правадыр нашых жанчын — Вера Плева і другія.

— Якім чынам дабіліся вы так высокага даходу? — пытаю. — Сакрэтаў ніякіх не маем. Разбілі тэрыторыю нашай дзейнасці на пяць раёнаў, — для кожнага трактара аддзельна. Два застаецца ў запасе на выпадак аварыі. Стараемся, каб трактары як найменш ездзілі пуста, а як найбольш працавалі.

І вось у мінулым годзе за кожным трактарам аказалася ў нас па 1200 гадзін працы. У тым цэлая справа.

Я ўжо развітваўся, калі да Рамановіча зайшоў сакратар курашаўскай партыйнай арганізацыі, Андрэй Сіліванюк.

— Мы, Рыгор, — звярнуўся да старшыні, — рыхтуем справаздачны сход. Дык прыдзі са сваімі ЗСЛь-оўцамі. Супольна паталкуем аб справах вёскі.

— Чаму ты з тым да мяне? Чаму не да нашага старшыні Сяргея Шпількі? — здзіўляецца Рамановіч.

— Быў і ў яго, — паясняе сакратар. — Але ты ж «кулкам» кіруеш, дык прыйдзі абавязкова.

Потым у павеце мне сказалі:

— Супрацоўніцтва дзвюх партыйных арганізацый у Курашаве праяўляецца вельмі канкрэтна.

**В. Рудчык**

# ТАРАСА ШАЎЧЭНКУ

**рыйцы павінны лічыць сябе братамі, адной вялікай сям'ёй. Братэрства з'яўляецца правілам найбольш цеснага саюза. Ці яго назавем федэрацыяй, ці уніяй, ці канфедэрацыяй, ці злучанымі штатамі, на такім правілы хутка стане таварыскі дагавор». Гэтае выказванне Енджэевіч скаменціраваў наступным чынам: «Лелевель, пералічваючы славянскія народы, не забыўся ўспомніць аб ілірыйцах і расках, але абмінуў украінцаў і беларусаў. Польскі дэмакрат цаніў і шанаваў гэтыя дзве нацыі, але змяшчаў іх на карце побач палякаў, у межах адной Рэчыпаспалітай» (стар. 478). Вельмі абшырна Енджэевіч прадставіў кантакты і сувязі Шаўчэнкі з палякамі, галоўным чынам з актыўнымі дзеячамі польскага нацыянальна-вызваленчага руху. Аўтар «Украінскіх ночаў» падкрэслівае, што Шаўчэнка сваёй узвышанай любоўю да роднай краіны выклікаў у палякаў пашану і захапленне, але найцяжэй ім было дагаварыцца ў справе граніц. Палякі настойвалі на адбудове гістарычнай польскай дзяржавы. У сувязі з гэтым Енджэевіч робіць вывад: «Выступаючы супроць злачынства падзелаў Польшчы, акцэнтавалі злачынства падзелу Украіны» (стар. 382). На асаблівую ўвагу заслугоўваюць зносіны Шаўчэнкі з Зыгмунтам Серакоўскім. Енджэевіч аперыруючы канкрэтнымі фактамі пераканаўча даказвае, як гутаркі і спрэчкі з Шаўчэнкай унеслі вялікую карэктыву ў погляды Серакоўскага ва ўкраінскай і беларускай справе. Шаўчэнка і Серакоўскі, ведучы шматгадзінныя размовы, дайшлі да наступнага вываду: трэба выклікаць рэвалюцыю, скінуць цара, даць сялянам зямлю і свабоду, а адначасова вызваліць з прыгнёту ўсе народы, не выключаючы рускага. Енджэевіч сцвярджае: «Нялёгка прышло Серакоўскаму, шляхціцу абцяжаранаму шматвяковай традыцыяй паняццяў і ўяўленняў, а нават няправільных грамадскіх і палітычных поглядаў, паспець за быстрай думкай Шаўчэнкі — нядаўна звольненага з падданства селяніна, нашчадка даўніх свабодных казакаў, унука гайдамакі, чалавека, які насіў у душы прагу свабоды выгадаваную яго краінай, яго народам; чалавека, які толькі што да нейкай меры ўзабраў еўрапейскую цывілізацыю і культуру, атрымаў адукацыю і быў асабліва падатлівы на ўсялякія новыя лозунгі. Ідэя нацыянальнасці, якая прышла на свет разам з дзевятнаццатым стагоддзем, была як бы створана для Шаўчэнкі. Гэта была сучасная ідэя, так як ён сам быў сучасны.**

**Кніжку Ежы Енджэевіча «Украінскія ночы або радаслоўе генія» горача рэкамендую беларускім чытачам, тым больш, што аўтар сігналізуе многа момантаў, якія сведчаць аб фармаванні беларускай нацыянальнай свядомасці. Падабенства гістарычнага лёсу Украіны і Беларусі абумоўлівае супадзенне шматлікіх сітуацый, матываў, элементаў і нітак у літаратуры і культуры абодвух братніх народаў. Таму з прыемнасцю і з вялікім унутраным задавальненнем чытаецца ў польскай аповесці пра Шаўчэнку фрагменты прысвечаныя беларускім справам, упамінанні пра народнага паэта Паўлюка Бахрыма, пра паэтаў і збіральнікаў беларускага фальклору Яна Баршчэўскага і Рамуальда Друцкага — Падбэрэскага, урэшце пра вядомага рэвалюцыйнага дзеяча Кастуся Каліноўскага.**

**На заканчэнне хачу звярнуць увагу на пісьменніцкую прыгажосць рэкамендаванай кнігі. Аўтар піша проста і з грацыяй, красамоўна і з захапленнем аб справах часта цяжкіх і з'явах неаднакратна складаных. Кніжка напісана чыстай, добрай польскай моваю.**

**ВАСІЛЬ БЕЛАКАЗОВІЧ**

# ХТО ВЫ, ДОКТАР ЗОРГЕ?

**Яшчэ аб слаўным савецкім разведчыку.**

**Фільм — дакумент супольнай прадукцыі французска-італьяна-японскай, зроблены ў 1960 годзе, расказвае аб Рыхарду Зорге і яго сябрах, якія працавалі ў Японіі на карысць СССР ад 1933 года. Фільм увайшоў на нашы экраны. Сцэнарый напісаў і рэжысіраваў фільм Іў Чыямпі.**



## СЛЕДАМ ЗОРГЕ ГАВОРЫЦЬ РЭЖЫСЁР

Зрабіць фільм аб Зорге падказала мне мая жонка, японская актрыса Кейко Кішы, якая ў фільме іграе ролю баранесы. Мая жонка расказала мне, што ў вайну многія яе прыяцелі ў Токіо ведалі Рыхарда Зорге — дзіўнага чалавека, савецкага патрыёта, скрытага пад маскай закалёнага фашыста. Я даведаўся, што пра Зорге пісалі немец Мейснер і японец Азакі. Калі я прачытаў іх успаміны, задумаўся, як адшукаць абодвух аўтараў. Аказалася, што Азакі — супрацоўнік Зорге — ужо не жыве, што свае ўспаміны напісаў у турме перад расстрэлам. Я пачаў шукаць Мейснера. Жыве ў Мюнхене. Я правёў у яго тры дні. Мейснер даў мне адрас Ота — германскага пасла ў Токіо ў час вайны. Пайшоў да яго і ад гэтага часу маё жыццё стала падобным да жыцця сапраўднага дэтэктыва. Ота прыняў мяне ветліва, але як толькі я ўспомніў аб яго ролі ў «справе Зорге» — выкінуў мяне за дзверы. Пазней я да гэтага прызвычаіўся: да каго б не звярнуўся я ў Заходняй Германіі — усе прымалі добра, але назаўтра нікога ўжо знайсці не мог.

Я не заламаў рук. Адшукаў журналістаў, якія працавалі разам з Зорге ў Токіо, адведаў архівы, залажыў папку, у якую збіраў кожную вестку аб маім героі. Пошукі завялі мяне ў Японію. Ясна, і тут дзверы заходнегерманскага пасольства закрыліся перада мной. Афіцыяльныя асобы не хацелі нават слухаць пра маю гісторыю. Але знайшліся прыяцелі Зорге, якія з энтузіязмам прывіталі маю ідэю.

Просьбай і грозьбай я атрымаў на некалькі дзён дакументы справы Зорге, сабраныя агентамі Кампетай — японскага Гестапа ў час вайны. Толькі цяпер мог праслядзіць усю ахвярную і рызыкоўную барацьбу Зорге супроць фашызму.

## ЛЁС ФІЛЬМА

Ідэя барацьбы Чалавека супраць фашызму сталася асновай майго фільма. Трэба было толькі з тысячы фактаў-здарэнняў выбраць найважнейшыя. Гэта заняло паўгода. Нялёгкія былі пошукі акцёра, які б сыграў галоўную ролю. Шукаў я яго 4 месяцы. Апублікаваў у газетах партрэт (якім павінен быць) Зорге. Атрымаў 2 тысячы прапаноў. Ніводная мне не падышла.

Адным дажджлівым асеннім вечарам я ішоў ля Шылер-Тэатр у Заходнім Берліне. Машынальна глянуў на афішы і мяне як токам паразіла: гэта ён. Убег у тэатр, не пускаюць. «Што вы? — сказалі мне. — Томас Гольцман не церпіць кіно». Колькі сіл каштавала мне намовіць яго, каб прыняў маю ролю. Здаецца пераканала сама постаць Зорге.

Гольцман працаваў вельмі аддана. Напамяць вучыўся французскага тэксту, хоць не ведаў гэтай мовы. Не лічыўся з часам. Фільм пра Зорге рэалізаваў з поўным перакананнем аб справе, для якой жыў і загінуў Рыхард Зорге.

Фільм высветлілі ў Заходняй Еўропе, у Лацінскай Амерыцы, на Блізкім і Сярэднім Усходзе. Публіка прыняла яго добра. Але дыстрыбутары прызналі яго надта камуністычным. Таму частыя рэтушы і змены. У СССР, дзе ўрачыстая прэм'ера адбылася ў Маскве ў 1964 годзе, 4 гады пасля Парыжа, фільм стаўся галосным і нічога ў ім не зменена.

У свой час Галівуд прапанаваў мне за амерыканскія грошы зрабіць мой фільм. Я не згадзіўся. Я, хоць за скромныя грошы, хацеў паказаць суровую рамантыку небяспечнай працы. Спакойны тон каментарыя Ганса Ота Мейснера — аўтара кніжкі аб Зорге, які ў фільме іграе самога сябе, выкарыстанне дакументальных здымкаў, усё мела насыціць фільм аўтэнтызмам. Праўда больш цікавая чым фікцыя.

## АС САВЕЦКАЙ РАЗВЕДКІ

Ён нарадзіўся ў 1895 годзе ў Баку. Яго дзед Фрыдрых Зорге — прыяцель Маркса і Энгельса, асуджаны на смерць за ўдзел у рэвалюцыі 1848 года, уцёк у ЗША, дзе стаўся адным з правадыроў амерыканскага рабочага руху і дзеячам I Інтэрнацыянала. Бацька Рыхарда працаваў інжынерам у германскай нафтавай кампаніі ў Азербайджане. Маці была руская. Калі Рыхарду было 3 гады, сям'я пераехала ў Германію. У 1914 годзе Зорге мабілізуюць. Тры разы ранены, звольнены з войска ў 1916 годзе. Заканчвае навуку з тытулам доктара на сацыялогіі ў Гамбургу. У 1919 г. уступае ў рады Камуністычнай партыі Германіі.

У 1925 г. пераязджае ў Маскву, прымае савецкае падданства, уступае ў ВКП(б)... Германскія фашысты рвуцца да вайны. Падымае галаву японскі мілітарызм. Зорге рашае прыняць працу ў разведцы. Пад кіраўніцтвам палкоўніка Берзіна кіраўніка IV спецыяльнага аддзела ў камандванні Чырвонай Арміі Зорге праходзіць падрыхтоўку. Ужо ў 1929 годзе як нямецкі журналіст выязджае ў Шанкхай. Едзе потым у Германію, у 1933 годзе ўступае ў НСДАП. У тым жа годзе з'яўляецца ў Токіо як карэспандэнт, якому поўнасцю давяраюць берлінскія ўлады. Прыстойны, незвычайна інтэлігентны, ведае 7 моў, таксама японскую, піша выдатныя артыкулы ў германскія газеты. Надыходзіць год 1937. Зорге ў Токіо. Далейшы яго лёс расказвае фільм.

## КАРОТКІ ЗМЕСТ

Цяпер Рыхард Зорге выступае ў ролі закалёнага фашыста, карэспандэнта газеты «Франкфуртэр Цайтунг» і некалькі іншых газет. Яго заданне: арганізаваць разведчыцкую работу ў Японіі. Стварае групу тзв. Рамсай, у склад якой уваходзіць 4 асобы, між іншым. Азумі Азакі — японскі журналіст і паэт, асабісты дарадчык японскага прэм'ера — князя Каное. Усе найвышэйшыя кругі германскага пасольства і японскія ў захапленні ад Зорге. Усе яго прыяцелі. А група Рамсай працуе. Савецкія радыётэлеграфісты на Сібіры прымаюць весткі ад пераноснай станцыі групы. Такім чынам атрымана за доўга да факту вестку аб нападзенні Японіі на Кітай, аб нападзенні Германіі на СССР, аб не нападзенні Японіі на СССР, што дазволіла СССР перакінуць свае войскі з Усходу на фронт заходні. Групе Рамсай аднак усё цяжэй працаваць. Японцы арыштоўваюць яе супрацоўнікаў, а ў 1944 годзе ў такійскай турме павешана Рыхарда Зорге.

## ЦІ ЗОРГЕ САПРАЎДЫ НЕ ЖЫВЕ?

Пасля вайны прыяцелі Зорге на яго магіле паставілі помнік з надпісам: «Тут ляжыць герой, які аддаў жыццё ў барацьбе супраць вайны, за мір ва ўсім свеце».

Але справа смерці Зорге дагэтуль не зусім ясная. Ніхто не бачыў яго цела. Афіцыяльна японскія ўлады пацвердзілі смерць Зорге. Тайная служба генерала Мак-Артура, які даводзіў амерыканскай акупацыйнай арміяй у Японіі, пацвердзіла гэты факт у 1948 г. на аснове паказанняў японскага пракурора, які быў прысутны пры смерці Зорге. Гэты ж пракурор, аднак, крыху пазней сказаў, што яго словы непраўдзівыя, што лгаў, бо так яму прыказала яго начальства.

Амерыкаскі журналіст Ральф дэ Паледана сказаў, што Зорге выйшаў жывы з турмы Сугана.

Адзін французскі дыпламат сказаў: што многа разоў бачыў Зорге ў Кітаі ў 1946 г.

Дыпламат японскі сказаў, што Зорге быў заменены на аднаго з японскіх агентаў, арыштаваных у СССР.

Былы аташэ германскага пасольства ў Токіо Ганс Ота Мейснер таксама не верыць у смерць Зорге.

Брат аса разведкі — Герман Зорге меў сказаць коратка перад сваёй смерцю ў 1950 годзе: —Усё, што ведаем аб Рыхардзе — гэта няпраўда. Пара сказаць аб ім праўду».

У СССР праз доўгія гады пасля вайны пра Зорге маўчалі. Толькі ў 1964 годзе Вярхоўны Савет СССР выдаў пастанову аб пасмяротным прызнанні Рыхарду Зорге звання Героя Савецкага Саюза.

## АБ РЭЖЫСЁРУ

Іў Чыямпі ў час вайны сам быў разведчыкам французскага падпольнага руху. Арыштаваны, уцякае ў Італію, дзе зноў яго арыштоўваюць і высылаюць у канцлагер. Зноў уцякае і ўступае ў рады рэгулярнай французскай арміі ў Афрыцы. У 1944 г. з арміяй альянтаў высаджваецца ў Нармандыі. Прымае ўдзел у вызваленні Парыжа. Пасля вайны канчае медыцыну і расстаецца з ёю для фільма. Зрабіў іх нямала. Цяпер працуе над серыяй 13 фільмаў аб разведчыках для тэлевізіі.

---

АЛЯКСЕЙ КАРПЮК

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

**Толькі Міцька сабраўся да разведчыкаў, як з гушчару выбягае вартавы. Аддыхаўшыся, радасна крычыць:**

**— Таварыш камандзір, немцы ідуць здавацца ў палон!**

**— Дзе-е?**

**— На просецы!**

**— Многа?**

**— Мно-ога! Чалавек сорак!**

**Гэта — юзафоўскія!**

**Цяпер наш атрад дзеліцца на ўзводы. Не паспяваю сказаць што-небудзь, а партызаны на нагах.**

**— Першы ўзвод сюды!**

**— Другі ўзвод за мной, бягом!**

**Узводныя вядуць людзей і на хаду разгортваюць, каб асядлаць просеку. Улавіўшы трывожны позірк маці, бягу і я.**

**— Зараз яны будуць здавацца нам пачкамі! — чмыхае носам і ляціць побач пабялелы камісар.**

**— Куды іх дзяваць?**

**Апынаемся на просецы. Злева і справа заглядаюць узводы, прыладжваюць прыклады да плячэй. Кулямётчыкі шукаюць цвёрдае месца для трыног. Перастаюць шамацець кусты ад нашых хлопцаў, і ў мяне па скуры прабягае мароз. З усходу паўзе нешта страшэннае. Чвакае балота, трашчаць галіны, нібы на нас валіць статак сланоў.**

**— Ы-ы-ы — ы-ы, глядзі! — хтосьці шэпча з жахам.**

**Зараснікі ліпы і арэшніку расступаюцца, перад вачыма жудасны малюнак! Валіць калона немцаў. Варушацца каскі, каскі, каскі, стэрэатрубы, вінтоўкі, кулямёты, рулі мінамётаў. Немцаў — соцень чатыры! Зацятая ўпартасць і рашучасць малююцца ў іх паставах і на загарэлых, з засмяглымі вуснамі тварах. Ад згуртаванай калоны дыхае варожай сілай. Прашывае страшэнная здагадка: вартавы памыліўся, яны ідуць не ў палон здавацца.**

**У крытычных выпадках чалавек думае вобразамі, таму ох і многа ж можна перадумаць за секунду ў цяжкую хвіліну! Легкадумна паверыў вартавому! Адна справа напасці на немцаў знянаку. Адчуваю сябе слабым, нібы камар, якога гэтая грубая сілішча лёгка ўтопча каванымі ботамі ў балота.**

**Без ранцаў, без вінтовак і аўтаматаў наперадзе крочаць афіцэры і фельдфебелі. Здзіўлена ўзнімаюць вочы, насцярожана хапаюцца за кабуры, але, каб не паказацца баязліўцамі, валяць далей. Бліжэй да іх стаіць камісар, немцы ўжо наступаюць яму на ногі.**

**— Стой! — узбуджана кідае ён і падаецца спіной да мяне.**

**— Стой, сволач!**

**— Куды прэш! — усхвалявана крычыць і начштаба, на якога лезе высачэзны немец у касцы.**

**— Гальт!**

**— Гальт! — адзываецца адразу некалькі немцаў.**

**Галава калоны спыняецца, але ёй у спіну штурхаюць заднія, збіваюць з месца. Лейтэнант і фельдфебелі перамешваюцца з намі. Нейкі час мы так і стаім, збітыя ў цесны натоўп: немцы трымаюцца за пісталеты, мы за аўтаматы, але нельга павярнуць рукой. Той, хто ідзе па балоце, глядзіць сабе пад ногі. Заднія немцы не бачаць, што робіцца наперадзе, лезуць, напіраюць, і натоўп усё павялічваецца, нельга ўжо павярнуцца, так цесна. Чуваць злоснае гырканне задніх:**

**— Wohin dringst du? Bist du Blind?[1]**

**— Bist du ferrückt geworden? Nimm dein verfluchtes Eisen auf! Stoß mick in die Seite nicht, Dummkopf![2]**

**Я ў такім узбуджэнні, што навакольнае даходзіць да мяне нібы праз сон. Нібы ў тумане, упікае мяне ўстрывожаны позірк маці, на момант бачу пад елкай яе бездапаможную фігурку і ачыняюся. Трэба дзейнічаць, праз секунду будзе позна! Якімсьці чужым голасам крычу:**

**— Achtung! Die ganze Kolonne, halt![3]**

**Калона спыняецца, чваканне ботаў і трэск кустоў сціхае, нібы аддаляецца вялізная чарада птушак. Смялею, паўтараю каманду выразней. Наступае цішыня. Зноў чуваць гул артылерыі, самалёты.**

**— Немцы! — крычу з надрывам. — Вы абкружаны! Вакол вас Чырвоная Армія і партызаны. Супраціўляцца няма сэнсу. Прапануем здацца ў палон. Гарантуем вам жыццё!**

**Калона маўчыць, застылая. Яна расцягнулася метраў на сто, пад абстрэлам атрада толькі перад, вакол — гушчар, ступі пару крокаў — і ты ўратаваны. Трэба не выпускаць ініцыятывы. Звяртаюся да тоўстага фельдфебеля, якому ў грудзі ўпірае ствол майго аўтамата:**

**— Пан фельдфебель, складайце зброю! Давайце сваім каманду!**

**— Я не камандзір батальёна!**

**Выходзіць, што ў прынцыпе ён не супроць скласці яе. Гэткага адказу не чакаў, на хвіліну губляюся.**

**— Хто камандзір? — лаўлю тон.**

**— Обер-лейтэнант Люцэ!**

**Паварочваю галаву, куды немец паказвае вачыма. Паміж мною і камісарам тырчыць рослы бландзін. Белы твар, выпешчаныя вусны здаюцца дзіцячымі і надта ж не вайсковымі. Стальная каска на ім быццам для парада. І толькі цяпер на пагонах бландзіна бачу два сярэбраныя кубікі.**

**— Камандзір батальёна, обер-лейтэнант Люцэ, прапаную вам скласці зброю!**

**— Што ж, скласці дык скласці! — кідае бландзін са здзеклівай і хітрай усмешкай, пераглядаецца з сябрамі.**

**Гэты немец — бывалы і загартаваны салдат, вораг. Яшчэ адчуваю: нешта я ўпусціў, праваронiў, немцы цяпер нас ужо не прымаюць усур'ёз, сталі непадатлівыя, момант нечаканасці мінуў. Застаецца апошняе: выскачыць з калоны, атраду адкрыць агонь! Але як адсюль вырвацца?**

**ПРАЦЯГ БУДЗЕ**

[1] Куды прэшся, аслеп?
[2] Ачмурэў? Прымі сваё праклятае жалеза! Што ты мне ім у бок прэш, вар'ят!
[3] Калона, слухай маю каманду, — стой!

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## УЗНАГАРОДА ЛьЗС-у

Многія ЛьЗС-ы Беластоцкага ваяводства прымаюць удзел у конкурсе «Спартыўная пляцоўка ў кожнай вёсцы». Пакуль што найлепш у конкурсе выпаў гурток ЛьЗС у Нараўцы, Гайнаўскага павета. Штопраўда Нараўка вядзе працу не толькі пры пабудове спартыўнай пляцоўкі, але і купальнага басейна.
Цэнтральная Канкурсовая камісія ў Варшаве, якая ацэньвала колькасць і якасць грамадскага чыну пры пабудове спартыўных устаноў, прызнала гуртку ЛьЗС у Нараўцы 10 тысяч зл. узнагароды. Трэба дадаць, што гэта першая ўзнагарода такога тыпу ў Беластоцкім ваяводстве. За гэтыя грошы ЛьЗС Нараўка зможа купіць спартыўныя прылады, якія будуць уручаны ў час афіцыйнага адкрыцця абодвух спартыўных устаноў. (ак)

## ПЕРАДАЧЫ З БССР

Тэлевізар — гэта акно на свет, кажуць у вёсцы старэйшыя людзі. Ім цяпер цяжка ўспамінаць, як жылося некалькі дзесяткаў год таму назад. Яны гавораць, што перад вайной рэдка хто меў ўласны веласіпед, а цяпер у кожнай хаце ёсць матацыкл, а ўжо некаторыя думаюць аб легкавых аўтамашынах. І дзіўным здаецца нашай моладзі, што калісьці вясковыя людзі патрапілі ісці па дваццаць ці трыццаць кіламетраў пехатою ў горад, каб залатвіць якуюнебудзь справу. Навіны з розных гарадоў таксама рэдка даходзілі да сялянскіх хат, бо людзі не мелі яшчэ радыёпрыёмнікаў, а на часопісы не мелі грошай...
Інакш гэтыя справы выглядаюць цяпер. Сяляне за некалькі хвілін патрапяць заехаць у горад, а за некалькі гадзін падарожжа аўтамабілем могуць пабываць нават у самай Варшаве. Таксама і з навінамі ў вёсцы цяпер непараўнальна лепш: кожная хата робіць падпіску на часопісы, мае радыёпрыёмнік, а там, дзе ёсць электрычны ток, сяляне могуць аглядаць тэлевізійныя перадачы. Але і гэтага цяперашнім людзям мала. Яны хочуць аглядаць перадачы з заграніцы. І вось, напрыклад, у вёсцы Лука. Год таму, школа на чале з настаўнікам Янкам Ціванюком купіла тэлевізар маркі «Шафір». Гаспадары вёскі Лука былі вельмі рады гэтай пакупцы.
Аглядалі яны перадачы да позных гадзін ночы. Але час робіць сваё. Перастаў многіх цікавіць тэлевізар. Людзі пачалі прыходзіць толькі аглядаць фільмы. У вёсцы ўжо і некаторыя сяляне купілі тэлевізары. Але ж раптам... што гэта, сяляне ізноў пачалі кожны вечар спяшацца ў школу на тэлевізар, і то па некалькі чалавек з хаты. З тэлевізара гучыць чысты рускі голас Яны пачалі адбіраць перадачы з БССР.

**Янка Бура**
Тарнопаль

## Паведамленне ў справе карыстання ахоўнымі каскамі

У сувязі са шматлікімі запытаннямі ўласнікаў матацыклаў накіраванымі ў Інспектарат кантролю дарожнага руху, якія датычаць абавязку карыстання ахоўнымі каскамі ў час язды матацыклам, Аддзел кантролю дарожнага руху КВ МО паведамляе, што згодна з распараджэннямі міністраў камунікацыі і ўнутраных спраў ад 9-га ліпеня 1964 года (М. Р. № 46 пазіцыя 227 ад 23. VII. 1964 года) ад 1-га ліпеня 1966 года ўсе, хто едзе на матацыкле (скутары), з маторам ёмістасцю звыш 5М см³ па-за адміністрацыйнымі граніцамі гарадоў і пасёлкаў, абавязаны карыстацца ахоўнымі каскамі.
Адначасова паведамляем, што ад успомненага перыяду органы Кантролю дарожнага руху будуць сыскваць рэалізацыю вышэйзгаданага правіла.

## ЗА 10 ГОД

Быў я ў Кузніцы ў 1956 годзе. У той час не было яшчэ чыгуначнай станцыі. Знаходзілася яна ў бараку. Прэзідыум ГРН і крамы знаходзіліся ў цесных сялянскіх хатах, школа была ў старым нявыгадным будынку. Нядаўна мне давялося зноў быць у Кузніцы. І яна змянілася да непазнання. Новая чыгуначная станцыя, прыгожы дом культуры, школа, крама і пункт аховы здароўя, ветэрынарны пункт і шмат новых вуліц. Сяляне пабудавалі многа мураваных дамоў.

**А. С.**
Сакольскі павет

## У ПАЎЛАХ НОВАЯ КРАМА

Будова новай крамы ў Паўлах ужо закончана. Прадаўшчыца Валя Паўлючук пакінула цесны «кут», у якім не змяшчаліся тавары. Перайшла яна ў чыстую, светлую і вялікую краму. Жыхары Паўлаў, як і прадаўшчыца з гэтага вельмі задаволены і ўдзячны уладам ПЗГС у Бельску Падляшскім.

**П. Я.**
Бельскі павет

## МІКОЛА ФІЛЬНОВІЧ

Салідным гаспадаром у Масеве І з'яўляецца Мікола Фільновіч. Зямлі мае мала, але затое добра на ёй гаспадарыць. Не так даўно пабудаваў ён мураваны хлеў. Тлустыя яго каровы і добры бугай — «Ірэк». У вольны час ад працы Міколу Фільновіча часта можна бачыць над кніжкай або часопісам.

**Янка Леўша**
Масева І

## БУДЗЕ ЛЯПЕЙ

Па просьбе жыхараў вёсак: Белкі, Сакі, Трасцянка і Сацы павятовы аддзел водна-меліярацыйны ў Бельску Падляшскім прыступіў да меліярацыі рэчак Малынка і Рудня.

**«Ярош»**
Белкі



Паказы пажарнай каманды з Нараўкі.

## СВІНАРОЙСКІ ФЕСТЫН

У Свінароі (пав. Гайнаўка) у дзень Свята Вёскі адбыўся фестын. З'ехалася сюды звыш тысячы людзей з усіх акалічных вёсак. Пасля афіцыйнай часткі выступаў драмгурток з Ляшукоў пад кіраўніцтвам Алеся Харкевіча. Вельмі спадабаліся ўсім п'есы «Соль» і «Пярэстая Красуля». Потым адбыліся паказы пажарнай каманды з Нараўкі.
Потым пачалася танцавальная забава для моладзі, якая працягвалася да раніцы. Нараўскі ГС добра падрыхтаваўся да гэтага свята. Было што і з'есці, і выпіць, і запіць. Вялікія словы падзякі належацца для Надлясніцтва са Свінароі і Грушак, якія сваімі самаходамі звезлі людзей на фестын з далейшых вёсак.

Тэкст і фота **Яўген Сапёлка**
Гайнаўскі павет

## СВЯТА ДЗЯЦЕЙ

1 чэрвеня — Міжнародны Дзень Дзіцяці. Весела святкавалі яго вучні з пачатковай школы ў Ляўкове (Гайнаўскі павет). У гэты дзень прыйшлі яны ў святочных вопратках — дзяўчаты ў белых блузках і цёмнасініх спадніцах, хлопцы ў школьных гарнітурах.
Пасля ўрокаў настаўнікі і вучні сустрэліся ў прышкольнай святліцы. На сцэне выступалі амаль усе дзеці з добра падрыхтаванай праграмай. Выступалі таксама зухі пад кіраўніцтвам настаўніка Мікалая Бартошука. Зухі на ўрачыстасці паказалі свой спецыяльна падрыхтаваны з нагоды Дня Дзіцяці мантаж, затым шматлікія вершы, песні, скетчы. Старэйшыя: пяці- шасці- і сямікласнікі выступалі з песнямі і многімі інсцэнізацыямі, гумарыстычнымі сцэнкамі. Пасля дзіцячага канцэрта вучні гулялі пад гукі гармоніка.
Хлопцы з VI і VII класаў сарганізавалі спартыўны розыгрыш са школьнай камандай з суседняй вёскі Ляшукі. Ігралі ў «шчыпярняка» і выйгралі.

**Янка Цялушэцкі**
Старое Ляўкова

## У 40-УЮ ГАДАВІНУ

Крушынянская добраахвотніцкая пажарная каманда нядаўна адзначала 40-ую гадавіну свайго існавання. Заснавана была яна ў 1926 годзе. Найстарэйшы член яе мае 60 год, а наймалодшы — 32. Пачынала пажарная каманда сваю дзейнасць карыстаючыся маленькай ручной помпай. Зараз мае яна сучаснае абсталяванне ўключна з «баявым» самаходам.
На гэтую ўрачыстасць прыбылі прадстаўнікі павятовых улад, якіх шчыра прывітаў старшыня крушынянскай добраахвотніцкай пажарнай каманды Кастусь Пятэльскі. Адзнакі «За выслугу год» уручаў старшыня павятовага праўлення пажарнай каманды ў Саколцы, Леанід Петрашкевіч. а ўрачыстага адкрыцця рамізы зрабіў кіраўнік аддзела ўнутраных спраў ПНР Леанард Тамашэўскі. У новай рамізе аж да раніцы працягвалася забава.

**К. П.**
Сакольскі павет




**ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!**

Жыву ў вёсцы Л. Маю 17 год. Кончыла я толькі пачатковую школу. Дапамагаю бацькам на гаспадарцы, бо я ў бацькоў адна.
А вось якое маю няшчасце. Не маю поспеху ў маіх сяброў і сяброўак. Калі пайду на забаву, дык мае сяброўкі і сябры жартуюць, смяюцца і ім весела, толькі адна я ціхенька сяджу ў кутку. Мне тады робіцца вельмі сорамна. І таму моладзь наша проста не лічыць мяне за дзяўчыну, проста так, як бы мяне не было. Баюся, што заўсёды буду адна.
Парай «Сэрцайка», ці лепш сядзець мне ўжо дома ці нейк інакш паступаць. каб лічылі мяне таксама сваёй сяброўкай. За параду буду вельмі ўдзячна.

**Каця**
з Гайнаўскага павета

**Дарагая Каця!**
Спачуваю табе. Гэта сапраўды непрыемна. Аднак многа ёсць такіх неадважных дзяўчат і хлопцаў, якія таксама церпяць як і ты. Але гэта ўсё ад цябе залежыць, гэта не трагедыя і можна ўсё направіць. Аднак не будзь песімісткай, не ўздумай замкнуцца ў чатырох сценах, бо нічога не выйдзе з твайго намагання. Не, так не ёсць. Усё можна направіць. Проста старайся хадзіць усюды, так як і твае сяброўкі. Але не сядзі ціхенька ў куточку, а пастарайся таксама браць удзел у размове. Твае ж сябры і сяброўкі гавораць на тэмы табе добра вядомыя, у якіх ты смела можаш выказаць свае погляды на пэўныя справы.
Пастарайся перамагчы сваё маўчанне. Ведаю, што першы раз будзе табе цяжка, пачырванееш, аднак не вяртайся назад. Ты ж таксама можаш і павінна смяяцца, жартаваць. Калі не патрапіш гаварыць дасціпна, дык гавары так, як умееш, натуральна — і гэта будзе найлепш. Калі шчыра прымеш мае парады, пасля нейкага часу вызвалішся назаўсёды ад свайго комплексу.

**Сэрцайка**

## ЧЫТАЧЫ ПЫТАЮЦЬ — „НІВА" АДКАЗВАЕ

**Пытанне:**

Мяне дзяўчына падала ў суд, патрабуючы ўстанаўлення бацькоўства і аліментаў. Не пачуваюся да віны тым больш, што два гады таму назад яна падала ў суд за тое самае дзіця грамадзяніна А. В. і справу прайграла. Ці можа ў такім выпадку суд засудзіць мяне, калі яна сама не ведае, хто бацька яе дзіцяці?

**Адказ:**

Аддаленне праз суд позву ў адносінах да гр. А. В. не з'яўляецца перашкодай да разгледжання праз суд справы накіраванай супраць Вас. Зразумела, суд павінен ацаніць, чаму дзяўчына падала раней А. В., а пасля некарыснага для яе рашэння выступіла супраць Вас. Аднак, калі будуць доказы, што ў перыяд, калі дзяўчына магла зацяжарыць, паміж Вамі былі цялесныя адносіны, суд можа прызнаць Вас бацькам дзіцяці і засудзіць аліменты.

# КІНО

**Праграма на 28. VI. — 3. VII. 1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Tak blisko nieba" (czeski), 28—29.VI. „Mój stary" (polski), 30.VI.—1.VII. „Yanko" (meksykański), 2—3.VII.

**Кляшчэлі**
„Był sobie dziad i baba" (radziecki), 30.VI—1.VII. „Troje i las" (polski), 2—3.VII.

**Нарва**
„Czarne i białe" (USA), „Nieprzyjaciel u progu" (radz.), 2—3.VII.

**Нараўка**
„Opowieści znad Donu" (radziecki), „Człowiek, który stchórzył" (czeski), 29.VI—3.VII.

**Чыжы**
„Ambicja" (radz.), „Czas miłości" (rumuński), 29.VI—3.VII.

**Дубічы Царкоўныя**
„Nieznajomi z pociągu" (USA). „Niewidomy muzyk" (radz.), 29. VI.—3.VII.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Człowiek, który zabił Liberty Valancea" (USA), „Wojna trwa" (włoski), 29.VI—3.VII.

**Орля**
„Ostatni lot" (radz.), „Winda towarowa" (franc.), 29.VI—3.VII.

**Райск**
„Cena odwagi" (bulg.), „Orkiestra wojskowa" (węgierski), 29.VI—3.VII.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Pożegnania" (polski), „Siódmy przysięgły" (franc.), 29.VI—3.VII.

**Міхалова**
„Tanganika" (radz.), 28—29.VI. „Jo-jo" (franc.), 30.VI.—1.VII. „Zawsze w niedzielę" (polski), 2—3.VII.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Wiosna we wrześniu" (czeski), 28—29.VI. „Siódmy przysięgły" (franc.), 30.VI—1.VII. „Salto" (polski), 2—3.VII.

**Мілейчыцы**
„Ruda Julka" (franc.), 28—29. VI. „Sklep przy głównej ulicy" (czeski), 30.VI—1.VII. „Wystrzał" (polski), 2—3.VII.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Johm i Erdme" (NRF), „Niedziela sprawiedliwości" (polski), 29.VI—3.VII.

**Шудзялава**
„Późne popołudnie" (polski), „Pociąg na tyły" (radz.), 29.VI—3.VII.

**Сідра**
„Pierwszy dzień mego syna" (czeski), „Miłość jednej nocy" (rumuński), 29.VI—3.VII.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Twarzą w twarz" (jugosł.), „Drewniany różaniec" (polski). 2—3.VII.

У днях 28. VI — 3. VII. у мясцовасцях Сухаволя, Дубіны, Ліпск фільмы высвятляцца не будуць.

**НІВА**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie. 5 $ — w USA.
Nakład 5458. Błtk D-3



 

# НІЎКА

**СІНОПТЫКІ**

**— Ты куды ідзеш з граблямі?**
**— Сушыць і складаць сена. А ты?**
**— І я. Бач, як ластаўкі зямлю лашчаць!**
**— Дождж будзе.**
**— Кінь ты, па радыё казалі, што будзе ўстойлівае сухое надвор'е.**
**— Дык ты што, прыкметам старых людзей не верыш?**
**— А ты хіба стары?**
**— Ад старых чуў.**
**— Тады зірні на комін.**
**— Ну й што, дым ідзе. Жонка твая позна ўстае, відаць.**
**— Мы ж не пра жонку, а пра дым гаворым. Ён жа калом стаіць. Значыць, макраядзі не будзе.**
**— Ну й што?**
**— У такім разе стаў граблі, пойдзем у хату.**
**— Чаго?**
**— Там бліны пякуцца. І за адно пачакаем і пераканаемся, хто праўду кажа. Сінопткі, ластаўкі ці комін.**
**— А бліны якія?**
**— Дранікі са смятанаю.**
**— Смачныя, пойдзем!**
**Дождж усё-ткі пайшоў. Напэўна з-за дранікаў.**

Кур'ёзы

**СУР'ЁЗНАЯ ПРЫЧЫНА**

**У горадзе Уорынгтон (Англія) пядаўна была адкладзена адна судовая справа. Як высветлілася, прычына ў тым, што ноччу злодзеі залезлі ў будынак суда і сцягнулі парыкі суддзяў і адвакатаў.**

## Я Ж НОГІ ПАМЫЎ

Няма другога такога ў нашай Вялікай Дулі. Калодзеж наш мог бы нават быць помнікам Тысячагоддзя. Даказваюць, што з яго піў ваду сам цар, калі ў Белавеж на паляванне ехаў. Ён найглыбейшы ў вёсцы і першы з бетону. Ужо цэлы зялёны ад моху. А журавель, калі апускаць і выцягваць кубал, так прыгожа скрыпіць, што напамінае мелодыю «Раскінулась мора шырока...» Ганарыліся мы ім на ўсю аколіцу. Раптам у мінулым тыдні прыехалі з горада, з нейкага «Сапіду». Пра ваду ў вёсцы распытваюцца. Солтыс зараз іх, вядома, да нашага калодзежа. А яны, гэтыя паны, штосьці пашапталі над нашай вадой і доўга ўзіраліся ў нейкую трубку са шкелкам. Народ збегся паглядзець на гарадскіх чудакоў.
— Падатак ад вады ўстанаўляць будуць, — заявіў Палікарп.
— Таму мераюць.
— Дурны ты! — запярэчыў Матвей з ГС-у. — Які там падатак! Напэўна грамадскі фонд пабудовы калодзежаў увядуць.
Паслалі мы ў разведку Гаўрылаву Маньку. Але без выніку.
Урэшце апошні з гарадскіх адарваў вока ад гэтай трубкі і звяртаецца да солтыса:
— На калодзежы прыбіць таблічку: «Вада не прыдатная да піцця. Пагражае хваробай або смерцю».
— Гэта як? — пытаю.
— Не верыце?! — абурыўся гарадскі начальнік. — Дык паглядзіце!
Солтыс выстраіў зараз усіх вялікадуляўцаў у чаргу паводле старшынства, і пачалі мы глядзець у гэтую трубку.
— Ну, бачылі? — пытае гэты начальнік.
— Бачылі! — закрычалі мы хорам, але зараз выявілася, што кожны бачыў што іншае, а найбольш старая Матрона.
— Ваш калодзеж трэба грунтоўна вычысціць! — загадаў начальнік. Не было, на жаль, адважнага, хто захацеў бы спусціцца ў такую бездань. Раілі Гаўрылаву Маньку («Яе і так чорт не возьме!» — даказвалі). Але заступіўся Матвей з ГС-у і нічога не выйшла. Пачалі кідаць лёсы. І тады з натоўпу выскачыў Сашка. «Спускайце мяне, толькі хутчэй, бо Зойчына маці вунь бяжыць»!
Праца пайшла спраўна. Усе мы дзякавалі Сашку і адвагу яго хвалілі.
— Што вы! — бараніўся ён па скромнасці. — Ад нядошлай цешчы вы мяне выручылі, і ногі прынамсі раз добра я памыў.

**Асака**

**ЯК ЖОНКА ТАПІЛАСЯ**



Набіў муж жонку, а тая й крычыць:
— Пайду ўтаплюся!
— Ну то йдзі, — адказаў муж.
Бяжыць жонка да сажалкі, а муж за ёю. Ускочыла яна ў сажалку (а там было толькі да метра вады) і стаіць.
— То чаго ж ты стаіш, пхай галаву ў ваду, — кажа муж
— Ага!.. То ты пхай галаву! Я так умею тапіцца...




*Лёгка яму высока трымаць гордую галаву, калі яна ў яго пустая.*

**НЕБЛАГІ ЧАЛАВЕК**

«Чалавек Цыбулькін неблагі: каб толькі не піў, не рабіў прагулаў і тройчы не жаніўся, з яго б можна было браць прыклад».

**(З характарыстыкі)**

ВІКТАР ЛАГОЗА

## МІКАЛАИ

**— Вось з'еў бы я баршчу з грыбамі!.. —**
**Заплямкаў Мікалай губамі.**
**— Дык што ж, хоць заўтра пойдзем па грыбы.**
**У лесе іх — лапатаю грабі!**
**— Што я, дурны, па-твойму, пешка!..**
**Учора ўвесь аблазіў гай —**
**Не бачыў нават сыраежкі, — азваўся Мікалай.**
**— Няўжо, скажы, блукаў уранні**
**Ты між бярозак на зары?..**
**— На д'ябла гэта мне блуканне!**
**Там заядаюць камары,**
**Да твару ліпнуць, як сляпіца,**
**Хто можа вытрымаць, павер...**
**Раса сцякае па ігліцы**
**І ўсё цаляе за каўнер.**
**Апоўдні недзе, прызнаюся,**
**Як сонца добра прыпякло**
**(Рашыў — было ці не было!),**
**Пашвэндаў трохі я па лузе.**
**А потым... Потым нейкі крок**
**Зрабіў быў нават у лясок...**
**Хаця б адзін грыбок!..**

— ■ —

**Маралі тут не прапушчу!**
**Каго я лаю?..**
**Не тых, хто схільнасць мае да баршчу,**
**А тых, хто дасць хоць лыжку Мікалаю.**

**НА ПАЛЯВАННЕ**

Іван Пятровіч збіраўся на паляванне. Паглядаючы на торбу, ён спытаў у жонкі:
— Кілбасу ўлажыла?
Яна сцвярджальна кіўнула галавою.
— А хлеб?
— Таксама.
— Ці не забыла паўлітра загарнуць?
— А як жа!
Пад'ехала машына, і гаспадара паклікалі сябры. Ён схапіў торбу — і шмыг у дзверы.
— Іван, а дубальтоўку, — кінула наўздагон жонка.
— Ды няхай... абыйдуся, — махнуў ён рукою.



**САМААБАРОНА**

Ідзе вёскай п'яны. Раптам яму дарогу перабягае кураня. П'яны, не доўга думаючы, штурхнуў ботам кураня і забіў яго. З панадворка выйшла гаспадыня і пачала лаяць п'янага:
— За што ж ты, нягоднік, забіў маё кураня?
П'яны паглядзеў на гаспадыню, потым на забітае кураня і прамамрытаў:
— А хто ведае, што ў твайго кураняці на думцы было, а раптам яно мяне клюнула б.




**УЛАСЦІВАСЦІ ТЫТУНЮ**

Кірмаш. Прадаўшчык тытуню расхвальвае свой тавар: — Купляйце тытунь, купляйце тытунь! Мой тытунь не просты! Ад майго тытуню старым не будзеш, сабака не ўкусіць, злодзей ў хату не ўлезе! Купіў адзін хлапец у гэтага прадаўшчыка крыху тытуню ды пачаў яго распытваць.
— А чаму то я старым не буду?
— Бо да старасці не дажывеш.
— А чаму мяне сабака не ўкусіць?
— Бо з кульбакаю хадзіць будзеш.
— А чаму злодзей у хату не ўлезе?
— Бо будзеш цэлую ноч бухікаці — кашаль душыць будзе цябе.

**ДОБРАЯ АПАРАТУРА**

Каля метэаралагічнай станцыі, якая штодня падавала прагноз пагоды, жыў адзін чалавек. Ён таксама прадбачваў пагоду. Паведамленні метаастанцыі пераважна не адпавядалі рэчаіснасці, а тое, што гаварыў чалавек, амаль заўсёды было праўдай
Пачулі пра свайго канкурэнта працаўнікі метаастанцыі ды й прышлі да яго:
— Скажыце, калі ласка, якія вы маеце апараты. што так добра паказваюць пагоду?
— Ды ніякіх апаратаў я не маю, — адказвае той.
— Не можа быць... А як жа вы так добра адгадваеце пагоду?
— Як?.. А вельмі проста... Я слухаю прагноз вашай станцыі і гавару наадварот... Вось вам і ўся мая апаратура.

---

*Песні па заяўках*

Па просьбе *Веры Карпюк, Насткі Шпаковіч* і *Янкі Казберук* з Белавежы, Гайнаўскага павета, змяшчаем песню п. з.

## Куда бежишь, тропинка милая?

*Куда бежишь, тропинка милая,*
*Куда зовешь, куда ведешь?*
*Кого ждала, кого любила я,*
*Уж не догонишь, не вернешь.*

*За той рекой, за тихой рощицей,*
*Где мы гуляли с ним вдвоем,*
*Плывет луна, любви помощница,*
*Напоминает мне о нем.*

*Была девчонка я беспечная,*
*От счастья глупая была.*
*Моя подружка бессердечная*
*Мою любовь подстерегла.*

*И отняла его, неверного,*
*У всех счастливых на виду,*
*Ох ты, печаль моя безмерная,*
*Кому пожалуюсь пойду?*

*Куда, куда, тропинка милая,*
*Куда зовешь, куда ведешь?*
*Кого ждала, кого любила я,*
*Уж не догонишь, не вернешь.*